

№ 32 (193)
Жнівень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:






## На тым тыдні...

• **17–19 жніўня** ў старажытным Мсціславе прайшло свята сярэднявечнай культуры **«Мсціслаўскі фэст»**. Сюды з'ехаліся рыцары з усёй Беларусі, а таксама – з-за мяжы. У праграме, апроч традыцыйных для падобных імпрэзаў рыцарскіх паядынкаў і бугуртаў, былі фотавыстава, прысвечаная гораду, агнявое шоў, майстар-клас баявога майстэрства, сярэднявечныя ваенныя гульні. Прайшоў таксама навуковы семінар, прысвечаны гісторыі і сённяшняму дню хрысціцтва ў гэтым рэгіёне. Не абышлося і без «Горада майстроў» – паглядзець на старадаўнія рамёствы, набыць нешта на памяць было шмат ахвочых.



• **21 жніўня** пачаўся традыцыйны **хрэсны ход праваслаўнай моладзі** ў Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр, прымеркаваны да свята Успення Прасвятой Багародзіцы (сьвяткуецца 28 жніўня). Гэтае паломніцтва – сямнаццатае, носіць найперш місіянерскі характар. Для маршруту выбіраюцца самыя «глухія» месцы, паломнікі ідуць не па шашы, а прасёлкавымі і лясными дарогамі й дарожкамі. Праходзячы праз населеныя пункты, служацца малебны, мясцовых жыхароў атрымліваюць у падарунак абразкі і літаратуру. Сёлетні маршрут – Гродна–Абухова–Лунна–Масты–Ланцэвічы–Галынка–Елка–Жыровічы. Цікава, што пачатковым пунктам маршруту заўжды абіраецца прапускны пункт на мяжы з Польшчай, дзе да беларускай групы далучаюцца праваслаўныя паломнікі з Падляскага ваяводства.

• **З 19 па 26 жніўня** ў Віцебску пры Музеі Марка Шагала працавала міжнародная **летняя школа мастацтваў**. Праект упершыню сабраў навучэнцаў мастацкіх школ Даўгаўпілса (Латвія), Нінбурга (ФРГ) і Віцебска, а таксама ўдзельнікаў ансамбля сучаснага танца «Дыялогі» з Гомеля. Мастакам прапануецца намаляваць асацыяцыі, выкліканыя музыкай, вершамі, а танцоры бяруць у рукі пэндзаль... У рамках праекта «Мастацтва без межаў – папулярызацыя прымежнай культурнай індустрыі праз мастацтва Марка Шагала і Марка Роткі» 21 жніўня прайшла вечарына сучаснай харэаграфіі, 24-га – сумесныя заняткі танцораў і мастакоў, у гэты ж дзень адкрылася выніковая выстаўка ўдзельнікаў летняй школы.

• **З 20 жніўня па 2 верасня** ў мінскай галерэі «Мастацтва» працуе **выстава кітайскай вышыўкі** шоўкавай ніткай. Гэтая тэхніка найбольшага росквіту дасягнула падчас дынастыяў Мін і Цын. Сюжэты незвычайных карцінаў – сцэны з жыцця, копіі шэдэўраў сусветнага жывапісу, партрэты на замову. Спецыялістаў і простых гледачоў прыцягваюць прыгожыя ўзоры, гарманічныя колеры і ахайныя шыўкі. Стварэнне кожнага твора – справа доўгая і карпатлівая, займае 6–12 месяцаў.

• **21 жніўня** ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску адкрылася **выстаўка графікі мастака Мікалая Казлова «Фантазус»**. У экспазіцыі прадстаўлена блізу 100 працаў: ілюстрацыі да кніг, серыі станковай графікі «Старыя цацкі», «Парад» і «Фантазус». Да слова сказаць, мастак праілюстраваў болей за 150 кніг, многія ўганараваныя дыпломамі рэспубліканскіх і ўсесаюзных конкурсаў «Мастацтва кнігі». Ён удзельнічаў у многіх нацыянальных і міжнародных выставах графікі.

## У бібліятэку мініяцюрнай кнігі

Першая беларуская мініяцюрная кніга выйшла ў 1833 годзе ў Мінску – «Подарок благонравным ученикам и ученицам на новый 1834 год, или Нравоучительные детские повести, служащие к образованию ума и сердца». Фармат таго выдання – 98х33 мм, аб'ём – 38 старонак. Кніга захоўваецца ў Публічнай бібліятэцы імя М.Е. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу. Знаўца мініяцюрнай кнігі Беларусі вядомы кнігалюб Васіль Вільтоўскі ў свой час у артыкуле «Беларуская мініяцюрная кніга» ў альманаху «Свіцязь» пісаў: «...актывісты Мінскай секцыі аматараў мініяцюрнай кнігі расшукалі ў фондах Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У.І. Леніна дзве кніжачкі, выдадзеныя ў даваенны час. Кніга "XXIII Дзяржынская раённая канферэнцыя (3–7 мая 1930 г.)" выдадзена ў Гомелі ў 1930-м. У ёй усяго 29 старонак, фармат 70х97 мм, тыраж не пазначаны. Другая міні-кніга выдадзена ў Мінску ў 1932 годзе пад назваю "Ударнікам бальшавіцкага друку" (на беларуская мове, тыражом 3 000 экз.). Яе фармат 50х68 мм, у ёй 208 старонак...» Гэта першыя мініяцюрныя кнігі, выдадзеныя ў Беларусі ў савецкі час.

У 1970–1990-я гады мода айчыннага кнігавыдання ў галіне стварэння «малютак» пашырылася. Амаль усе народныя пісьменнікі Беларусі былі прадстаўлены чытачу ў мініяцюрнай кнізе: Пятрусь Броўка, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Танк, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Янка Брыль... А ўзгадваю я пра гэта невыпадкова. Сёлета ў Слоніме пабачыла свет кніга паэта Сяргея Чыгрына «Лірыка» (фармат 57х77, аб'ём 56 старонак). Літаратурна-мастацкае выданне, як пазначана ў выхадных дадзеных, адрэдагаваў Мікола Канановіч. Камп'ютэрны набор самога аўтара, карэктар – Ірына Беглік. У якасці ілюстрацый выкарыстаны рэпрадукцыі літаграфіі вядомага мастака Уладзіміра Басалыгі. У выхадных дадзеных тыраж не пазначаны. Ці істотна гэта ў дадзеным выпадку і для мініяцюрнай кнігі ўвогуле? Як мне падаецца, пакачык тыражу – усё ж важная дэталь. Асабліва для калекцыянераў мініяцюрнай кнігі і будучых даследчыкаў.

Між іншым, для параўнання хацелася б прывесці наступны прыклад. У 1993 годзе ў Мінску была выдадзена кніга А. Міцкевіча, А. Пушкіна «Вершы на рускай мове» (пазначана як выданне ў «Паэтычнай бібліятэчцы часопіса "Гаспадыня"»). Яшчэ адна пазнака патлумачвае характар выдання (цытую на мове арыгінала): «Книга выполнена и проработана акварелью вручную художником Эрнестом Насибулиным Переплётные работы Ореста Замятина Тираж 50». У «томіку» – болей 20 ілюстрацый. Аб'ём – 46 старонак, фармат – 50х50 мм. Як бачыце, выданне яшчэ больш мініяцюрнае, чым «Лірыка» Сяргея Чыгрына. Удакладненне выдавецкіх дадзеных (характар ці прыналежнасць зборніка А. Міцкевіча і А. Пушкіна, тыраж) робіць «мінскую» кнігу падзеяй, нагадвае кнігалюбам пра яе вартасці з пункту гледжання паліграфічнага. Слонімскае выданне ў гэтым плане прайграе. Хаця і сам факт з'яўлення зборніка Сяргея Чыгрына «Лірыка» (на другой старонцы ёсць яшчэ наступная пазнака: «Вершы беларускага паэта пра каханне»), і змест, і макет, канцэпцыя кнігі не могуць не прыцягваць увагу.

(Заканчэнне на стар. 2)

*Няма глумлення больш жорсткага, як не магчы сказаць тое, пра што думаеш*

*Ш. Сент-Эўрымон*





## Наш каляндар

175 гадоў таму ў маёнтку Шаўры Воранаўскага раёна нарадзіўся адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гадоў у Польшчы, Літве і на Беларусі **Людвіг Тэадоравіч Нарбут**. Сын вядомага гісторыка і археолага Тэадора Нарбута (1784–1864).

Л. Нарбут у час падрыхтоўкі паўстання быў прыхільнікам партыі «чырвоных». Калі «чырвоныя» ў Польшчы найперш прадугледжвалі адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, захаванне памешчыцкага землеўладання і інш. (права беларускага, украінскага, літоўскага народаў на самавызначэнне адмаўлялася), то «чырвоныя» ў Літве і на Беларусі на чале з К. Каліноўскім прынялі больш рэвалюцыйную праграму, у тым ліку ставілі мэтай і права на самавызначэнне названых народаў, перадачу сялянам усёй зямлі. У 1863-м Л. Нарбут стаў ваенным начальнікам паўстанцаў Лідскага павета, адзін з першых на Беларусі сфармаваў баявы атрад, з якім у лютым-красавіку паспяхова вёў баі з карнымі войскамі, за што ад паўстанцкіх улад атрымаў званне палкоўніка. Загінуў у баі 4 мая 1863 года.



*Смерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў (фрагмент літаграфіі Міхала Эльвіра Андрыёлі. 1864–1865 гг.)*

# У бібліятэку мініяцюрнай кнігі

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Так што, у шэрагу кніг паэта, перакладчыка, краязнаўчага пісьменніка Сяргея Чыгрына «Лірыка» – несумненна, вартасны набытак. Што да раней зробленага слонімскім літаратарам, то яшчэ ў 1993 і 1999 гадах выдаў кнігі вершаў «Шчырая Шчара» і «Горад без цябе». Абедзьве – у Слоніме. Сяргей Чыгрын – аўтар краязнаўчых кніг «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Пакліканы на родны парог» (2005), «Чамяры і чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007).

Але вернемся да кнігі А. Міцкевіча і А. Пушкіна. У зборнічку змешчаны 2 вершы класіка польскай літаратуры – «Ваявода» і «Будрыс і яго сыны» (пераклад А.С. Пушкіна) і верш рускага генія «Успамін» (гэты твор перакладаў на польскую А. Міцкевіч), а таксама пушкінскае прысвячэнне Адаму Міцкевічу «Ён між намі жыў». Прадмову да кнігі напісаў вядомы беларускі літаратар Янка Сіпакоў, якога, між іншым, па праве можна назваць і вядомым мінскім кніжнікам.



*Сяргей Чыгрын*




Сённяшнія эканамічныя ўмовы, істотныя змены ў арганізацыі кнігавыдавецкай справы паўплывалі і на змены ў галіне мініяцюрнага кнігавыдання. Калі раней, у 1970–1990-я гады, манапалістам у гэтай справе была «Мастацкая літаратура», то зараз і самі паліграфічныя прадпрыемствы займаюцца мініяцюрным кнігавыданнем. У сувязі з гэтым хацелася б спадзявацца, што адзін з галоўных бібліятэчных інстытутаў краіны (мо Нацыянальная бібліятэка, а мо Нацыянальная кніжная палата? Мо навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН Беларусі?) пачне рыхтаваць хаця б па выніках дзесяцігоддзя каталог ці бібліяграфічны паказальнік сучаснай беларускай мініяцюрнай кнігі.

**Кастусь ЛЕШНІЦА**




*Супервокладка кнігі М. Багдановіча (Таварыства «Кніга» БССР, 1991 г., 75x100 мм)*

# Дарога праз Качай-балота

***У X–XIII стагоддзях Ганцаўшчына (а дакладней, тэрыторыя, якую яна займае сёння) была малаабжытай і пустыннай. Аднак з часу аб'яднання ВКЛ і Польшчы ў адзіную федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую да нас даходзяць звесткі аб даволі буйных паселішчах на тэрыторыі сённяшняга Ганцавіцкага раёна.***

Вось як апісвае нашу мясцовасць у нарысе «Даліна Прыпяці» даследчык і вучоны А.Р. Кіркор: «Ещё большее пространство занимают непрерывные леса и болота к югу от Щары. Часть этих болот, идущая к востоку от озера Выгоночи, называется Качай-болото. На всём этом протяжении 1 360 квадратных вёрст находится только 7 населённых местностей, в том числе селение Хотыничи, лежащее на почтовой дороге из Минска в Пинск». Вучоны-даследчык згадвае ў нашай мясцовасці яшчэ 6 населеных пунктаў. Яны пазначаны на Радзівілаўскай карце, складзенай у 1613 годзе. Гэта сучасныя вёскі Макава, Сукач, Ганцавічы, Люсіна, Круговічы, Дзяніскавічы. З 1515 года і пазней вёска Будча неаднаразова ўпамінаецца ў многіх архіўных дакументах, як і суседні Чудзін. У хроніцы навагрудскага падсудка Еўлашэўскага, датаванай 1593 годам, упамінаюцца Малкавічы (Малькавічы) і Сялцо (сучаснае Люсіна).



Чаму Ганцавічы атрымалі такую назву, ёсць тры версіі: а) ад прозвішча Ганцэвіч (часоў будаўніцтва чыгункі ў 1884 годзе); б) ад gans – гусь (інжынеры-немцы ўбачылі шмат буслоў у 1884 годзе); в) ад князёвых ганцоў. Пра апошняе расказвае верш Л.М. Дарашэнкі.



*Сядзіба XIX ст., в. Агарэвічы*

**Мікалай САЙКО,**
*г. Ганцавічы*



*Юр'еўская царква са званіцай у в. Чудзін*

*Гісторыю даўнюю вам раскажу,*
*Што праўда, што выдумка – не разбяру.*
*Паслухайце, як гэта ўсё адбылося*
*І ў дзіўную казку за векам сплялося.*
*Ад Пінскага княства да Слуцкай зямлі*
*Вёрст дзвесце дарогі разгоннай ляглі.*
*І не бяспечнай, лучыстай, набітай,*
*А хмелем прыгод*
*разнастайных спавітай.*
*Служыў у князя Ганіч,*
*кіраваў ён ганцамі,*
*Да Слуцка заўжды*
*выпраўляўся з сынамі.*
*Малодшы быў Гань, старэйшы – Ганоша,*
*І лёгкай была ім усялякая ноша.*
*Вось зноў князь да Слуцка*
*ганцоў пасылае,*
*Хатуль свой сакрэтны ён ім давярае.*
*Ніхто ўжо на свеце ганцоў не стрымае,*
*Хай вецер-вандроўнік у грывах заіграе.*
*Яшчэ толькі сонца ўзбілася ў неба,*
*А Ганю праз Ясельду брод шукаць трэба.*
*І далей да ночы без стомы мчаць коні,*
*Топчуць капытамі долы і гоні.*
*Не стрымлівае Ганіч сыноў*
*на разгоне –*
*Галопам імчаць па шырокім раздоллі.*
*Пакуль развітальны прамень*
*сонца кіне –*
*Вёрст сорак за дзень шляху*
*дойгага згіне.*
*Другі дзень за Бобрык ім сцеле дарогу,*
*Няма там балотам нідзе абыходу.*
*Ужо стомлены коні, аброці не рвуць,*
*А Ганіча цяжкія думкі гнятуць.*
*Прайсці б ім балота – Качаем завецца,*
*Ды выйсці на ўзгорак на беразе Цны,*
*Тады й адпачынак заслужаць яны.*
*Сынам стары Ганіч здарэнне згадаў,*
*Як сам першы раз тут дарогу шукаў.*
*Яму яе пара буслоў паказала,*
*Што ад імшараў да выспаў*
*шлях свой трымала.*
*З надзеяй на лепшае ў нетры ўвайшлі,*
*Да вечара ўдачу на ўзгорках знайшлі,*
*На выспах высокіх, на беразе Цны,*
*Дзе лісцем шапочуць велічаны-дубы.*
*Здаўна тут будан іх трывалы чакае,*
*Рака смагу чыстай вадой наталяе,*
*І коням на травах*
*мурожных прыволле,*
*І думкам юначым хмяльное раздолле.*
*Вышэй па цячэнні, дзе злом робіць Цна,*
*Жыла ў Любашове красуня адна.*
*Яе ўпадабалі і Гань, і Ганоша,*
*Дый Ганіч стары казаў –*
*дзеўка хароша.*
*Як толькі стан разбівалі князя ганцы,*
*Гублялі ўсялякую стому*
*маладыя хлапцы.*
*І па адным ў навакольлі блукалі,*
*Сустрэчы з красуняю-дзеўкай шукалі.*
*Яна ўпадабала яснавокага Ганя.*
*«Застанься са мною», –*
*яму нашаптала.*
*Гань просьма прасіў,*
*стары Ганіч скарыўся,*
*Што зробіш,*
*калі сын да дзяўчыны хіліўся.*
*На ўзгорках, на беразе чыстае Цны,*
*Дзе стан свой мелі князёвы ганцы,*
*Сядзібу яны дружна ўтрох збудавалі*
*І Ганцавічамі называць яе сталі.*
*Такая гісторыя, што тут прыпішаш,*
*І верыць у казку ўсіх не прымусіш.*
*А можа, усё гэта хто і праверыць?*
*Каму ад мінулага ключык даверыць?*

**Л. ДАРАШЭНКА**





**З бібліятэкі «КГ»**

*Нядаўна Вольга Іпатава прынесла ў рэдакцыю сваю новую кніжку, якая выйшла ў выдавецтве «Кнігазбор» накладам 500 асобнікаў. Мы віншуем Вольгу Міхайлаўну з выхадам кнігі, асобныя матэрыялы з якой мы ўжо друкавалі ў «КГ», і спадзяемся на далейшае супрацоўніцтва, бо вандроўкі па Беларусі працягваюцца, як працягваюцца і ўражанні-замалёўкі пісьменніцы – выдатны краязнаўчы матэрыял.*

*Прапаноўваем увазе чытачоў аповед з кнігі ў скарочаным варыянце.*




# Вішнева: тры магілы

*Вёска Вішнева Валожынскага раёна дарагая сэрцу кожнага беларуса, які ведае і любіць сваю гісторыю. Я даўно хацела пабываць там – паслухаць імшу на беларускай мове, што многія гады ладзіў у мясцовым касцёле ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі, паглядзець на роспісы, зробленыя славутым мастаком Фердынандам Рушчыцам, пахадзіць па мясцінах, звязаных з імёнамі Канстанцыі Буйло, Уладзіславы Францаўны – славутай цёці Уладзі, іншых вядомых людзей Беларусі, пабачыць школу, дзе працаваў Пятро Бітэль, і, па магчымасці, запісаць яговыя аповеды пра «час і пра сябе». Думалася, што паедзем мы ў Вішнева разам з П. Бітэлем, бо ён не аднойчы запрашаў калег-пісьменнікаў на сваю радзіму.*

З ксяндзом Чарняўскім мы таксама былі знаёмыя. Калі я працавала галоўным рэдактарам літаратурна-драматычнай рэдакцыі на Белдзяржтэлерадыё, ён, прыкладна ў 1988 г., прыязджаў да нас у студыю на запіс тэлевізійнай перадачы, і, як і на ўсіх, з кім сустракаўся, зрабіў вялікае ўражанне. Гэта быў незвычайны для таго часу чалавек, які дзеля любові да роднай Беларусі пайшоў насуперак усяму, што абкружала яго і прымушала прытрымлівацца прынятых правілаў. А правілы тыя былі – у касцёле мусіць гучаць польская мова! Але ён не ішоў насуперак сваёй душы, якая казала, што Бог чуе чалавека перш за ўсё на той мове, на якой ён гаворыць сэрцам.

Тады, у канцы 1980-х, «прабіць» на тэлебачанні перадачу, у якой удзельнічаў святар, было няпроста, але ж магчыма, у адрозненне ад папярэдняга часу, калі пра гэта нават думаць не дазвалялася. І хаця давялося прыкласці шмат высілкаў, каб з экрана загаварыў вядомы і любімы беларускай інтэлігенцыяй ксёндз Чарняўскі, радасць мая ад таго, што гэта ўдалося зрабіць, была бязмернай. Але ягонае выступленне было надта кароткім – каля трыццаці хвілін. Таму, як мне здавалася, трэба было сапраўды ехаць і запісваць яго хаця б на аўдыёкасеты – на будучае...

Усё не атрымлівалася – справы, кнігі, вечны недахоп часу. І толькі 10 сакавіка 2005 г., калі нас, пісьменнікаў, запрасілі выступіць у Вішнеўскай сярэдняй школе, мы – малады паэт Вячаслаў Корбут, на той час дырэктар Літаратурнага фонду, Пятро Саковіч і мы з мужам (як заўсёды, ён быў за рулём) – паехалі ў гэтае былое мястэчка са слаўнай старажытнай гісторыяй. Як звычайна бывае, час апярэдзіў мае добрыя намеры: і ксёндз Чарняўскі, і Пятро Бітэль памерлі, а я цяпер спадзявалася хаця б пастаяць каля іхніх магілаў. Ведала, што айцец Уладзіслаў пахаваны каля касцёла, а вось Пётр Іванавіч – на мясцовых могілках. Там жа і магіла Канстанцыі Буйло – яна была пахавана ў Маскве, але ў 1989 г. урна з ейным прахам была перавезена менавіта сюды, у Вішнева, дзе прайшло яе дзяцінства.

Єхаць да магіл пісьменнікаў – гэта як быццам зноў перачытваць іхнія творы, узгадваць лепшае, аналізаваць жыцці, якія ў кожнага – адметныя, поўныя драматычных падзеяў.

Я ўзяла з сабой кніжачку Дзіяны Чаркасавай «Люблю», дзе расказваецца пра творчасць і жыццё Канстанцыі Буйло. Горка было нанова асэнсоўваць той факт, што гэтая, адна з самых любімых народам паэтак, на Беларусі жыла зусім невялікую частку свайго доўгага жыцця. З 1923 г. знаходзілася ў Маскве, што, хутчэй за ўсё, уратавала яе ад палітычных рэпрэсій 1930-х гг. на Беларусі.

І ўсё ж рэпрэсіі яе не прамінулі – быў арыштаваны муж, Віталь Адольфавіч Калечыц, і яна добра зведала, што такое быць жонкай «ворага народа». Званне заслужанага дзеяча культуры БССР атрымала толькі ў 1968 г., калі ёй споўнілася 75 гадоў.

Канстанцыя Буйло класікам (і легендай!) стала ўжо неўзабаве пасля выхаду «Курганнай кветкі», якая адразу высунула яе ў першыя шэрагі літаратурнага жыцця. Легендай называлі яе многія крытыкі, гэтак жа назваў свой артыкул пра яе ў 1984 г. беларускі паэт Польшчы Віктар Швед: «Беларуская легенда».

Творцы таго часу плацілі за сваю творчасць і свабоду перакананняў непамерную цану. Але ніхто з іх не прадаў сваю душу – ні Уладзіслаў Чарняўскі, ні Канстанцыя Буйло, ні Пятро Бітэль...

Едучы ў Вішнева, я зноў і зноў узгадвала яго спакойныя, добрыя вочы, яго лагодную гаворку – як у сапраўднага духоўнага айца. Нездарма ён колькі гадоў быў святаром і нёс людзям суцяшэнне ў самыя цяжкія атэістычныя часы. Перад паездкай паглядзела даведнікі – ці ёсць там штосьці пра Бітэля?

Імя Пятра Бітэля паспела ўвайсці нават у 1-шы том «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», які выдала БелСЭ ў 1984 г. Але артыкул пра яго, які напісаў сумленны і шчыры Генадзь Каханоўскі, мабыць, быў моцна парэзаны. Толькі той, хто ведаў перыпетыі жыццёвага лёсу Пятра Іванавіча, мог здагадацца, чаму так «скачуць» і зусім не стыкуюцца лічбы ягонай біяграфіі: «БІТЭЛЬ Пятро Іванавіч (крыпт. П. Б. н. 6 (19).6.1912. г. п. Радунь Воранаўскага р-на), беларускі сав. паэт, перакладчык, краязнавец. Вучыўся ў Барунскай і Віленскай настаўніцкіх семінарыях (1925–31), скончыў Мінскі пед. ін-т (1970)».

Адразу ўзнікала пытанне: як мог чалавек, які пачаў друкавацца ў прэсе ўжо з 1930 г., скончыць педагагічны інстытут толькі ў 58 гадоў?

І далей чытаем ў артыкуле: «У 1939–41 і ў 1946–50 на пед. працы ў Валожыне і Валожынскім р-не, у 1956–74 выкладчык бел. і ням. моў у Вішнеўскай сярэдняй школе».

А дзе падзеліся гады з 1950 па 1956? Дзе мог быць гэты нястомны працаўнік на ніве беларускай асветы і літаратуры?

Вядома, там, дзе засталіся ляжаць у вечнай сібірскай мерзлаце лепшыя сыны і дочкі Беларусі тых страшных сталінскіх часоў, якія па сённяшні таму-сяму малююцца як суцэльная ідылія народнага шчасця. У сапраўднасці ён быў арыштаваны ў 1950-м і засуджаны на 10 гадоў зняволення ў папраўча-працоўных лагерах, адбываў тэрмін у Кемераўскай вобласці, Омску, Джэзказгане, у медных рудніках ды на розных будоўлях. Хацеў пісаць, і таму хімічным алоўкам выводзіў на папяровых мяшках з-пад цэменту перакладзеныя на беларускую мову радкі А. Міцкевіча аб свабодзе, якія дапамагалі яму выжыць там, дзе не вытрымлівалі і маладзейшыя. Пятро Бітэль вярнуўся на радзіму праз тры гады пасля смерці Сталіна, аднак настаўніцкую працу атрымаў значна пазней, а да таго жыў тым, за што яго і пасадзілі, – святарным служэннем Богу.

Да 1984 г. асобным выданнем у яго выйшла толькі паэма «Замкі і людзі», прысвечаная гістарычным падзеям, што адбыліся ў сярэдзіне XIV ст. у Крэўскім, Трокскім і Віленскім замках, ды яшчэ асобныя кавалкі з паэм А. Міцкевіча «Конрад Валенрод», «Пан Тадэвуш» і «Гражына».

Пазней, уключна да самай яго смерці, выйшла яшчэ нямала розных твораў. Ён як бы спяшаўся – паведаміць і зафіксаваць хаця б частку таго вялізнага набытку, якім узбагаціў сваё нялёгкае жыццё.

Мы пазнаёміліся з ім недзе ў 1989 г., калі ён прынёс у часопіс «Спадчына» артыкул пра расстрэлы ў Катыні. Называўся той артыкул «І нашых там было нямала», і П. Бітэль, які і сам у 1933–1934 гг. служыў у Войску Польскім, пераканаўча даказваў у тым артыкуле, што сярод польскіх афіцэраў былі заходнебеларускія інтэлігенты – напрыклад, настаўнікі, якія былі прызваны ў войска напярэдадні вайны і, узятыя ў палон, расстраляны былі ўжо як палякі. Гэта была, бадай што, ці не першая ластаўка – вестка аб удзеле беларусаў і ў войску Андэрса (пра што нідзе ўвогуле не згадвалася, як быццам таго і не было). Толькі ў апошнія гады пачаліся згадкі і пра славутую бітву пад Монтэ-Касіна, у якой таксама ўдзельнічалі беларусы.

...Дарога між старых дубоў і клёнаў, што і цяпер гатовы былі сашчапіць свае голыя магутныя галіны над нашай машынай, вілася чорнай змяёй між заснежаных палёў. І вось Вішнева. Аднак нас чакала няспадзяванка: снег, які выпаў напярэдадні, тут быў нейкі асабліва пышны: снежныя гурбы высока атулялі дарогу, і мы ледзьве даехалі да касцёла, які ўзвышаецца пры ўездзе ў Вішнева. Касцельны двор, аднак, быў добра ўтаптаны, і ксёндз Уладзіслаў – малады, нядаўна сюды прызначаны – павёў быў нас ў касцёл, ды мы спачатку ўсё ж падышлі да магілы ягонага папярэдніка.

Сапраўды, месца для апошняга прыстанку вялікага чалавека і патрыёта выбрана выдатнае: адсюль праглядаецца ўся дарога да Вішнева, і касцёл нібы атуляе магілу з поўначы ад сівернага ветру.

...Хвіліны маўчання каля магілы Уладзіслава Чарняўскага, сярод пухкай, лёгкай суцэльнай белі, каля белага ж касцёла, што здаля здаецца агромністым птахам, які ляціць да самага неба, – гэтыя хвіліны засталіся ў маёй душы, мабыць, назаўжды. Здалося, што душа яго была тут, з намі, што ён адчуваў нашыя сэрцы і ведаў, колькі ў іх любові і павагі...

Ці мы, каго Усявышні прывёў на гэтую зямлю не ў самыя горшыя, – але, мабыць, яшчэ не лепшыя яе часы, – здольныя гэтак жа змагацца за яе, змагацца справамі, нягледзячы на цяжкасці, перашкоды, на агульны вал раўнадушша, які штодзённа абрыньваецца на нашыя душы, – ці здольныя мы на штодзённы подзвіг працы і любові, як быў здольны на тое ксёндз Чарняўскі?!

Пазней мы пад'ехалі да дарогі, якая павінна весці на вясковыя могілкі, дзе навечна лёг Пятро Іванавіч Бітэль і Канстанцыя Антонаўна Буйло (Калечыц). Але другі раз адчуць такое ўзрушэнне не давялося: дарогі не было. Нізіну гэтак занесла снегам, што адолець яе было пад сілу хіба што трактару. Ды кароткі дзень ужо згасаў – імклівa і беспаваротна.

Мабыць, гэта знак, што трэба прыехаць сюды яшчэ раз. Зноў пастаяць у дзівосным касцёле XIV ст. – адным з самых старажытных на Беларусі, пагладзіць поглядам распісаныя Фердынандам Рушчыцам выявы апосталаў і, пабыўшы ля магілы беларускага ксяндза, прыйсці на вясковыя могілкі да К. Буйло і П. Бітэля. У школу, дзе, магчыма, зноў адновяць той музей, які тут быў некалькі гадоў назад і які, як нам сказалі, «закансерваваны» з-за рамонту. Дзе будзе заўсёды вісець мемарыяльная дошка на школе, якой прысвоена імя К. Буйло і дзе патрэбна прымацаваць яшчэ дошкі ў гонар П. Бітэля і У. Чарняўскага.

Яны – усе трое – заслужылі нашу ўдзячную памяць...

***Вольга ІПАТАВА***





*Вішнеўскія старажылы: касцёл і царква*

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

# 2007: Год Слова Купалы і Коласа

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–31)*

Купала ездзіць у частыя камандзіроўкі па Смаленшчыне і ў Курскую губерню, у неакупаваныя Клімавічы, бывае, цяжка хварэе, але з перапынкамі піша вершы, сярод якіх будуць такія выдатныя, як «Наша гаспадарка», «Спадчына», «Забраны край», «Мая вера», «Паязджане», у якіх адчуваўся яго як грамадзянскі, так і творчы рост. У часопісе «Нямецкі агляд» быў змешчаны этнаграфічны артыкул «Беларусы. Славянская сялянская нацыя, якая абуджаецца», дзе Купалу дадзена ацэнка як аднаму з самых значных і найбольш вядомых беларускіх паэтаў.

У гэты невыносна цяжкі час для сцвярджэння Беларусі хіба не красамоўна, мужна гучыць не верш, а твор, узніклы на болю, – «Наша гаспадарка»:

*Спрадвеку мы у родным краю*
*гаспадарым, –*
*Свае загоны сеем,*
*пасьцім статак свой;*
*З надзеяй сустрачаем*
*выраі вясной,*
*З надзеяй ўвосень*
*іх праводзім над папарам.*

*Спрадвеку ходзім пад панамі*
*і пад царам*
*На недруга й на бліжняга*
*свайго вайной,*
*Хоць нам за нашу кроў*
*падзякаю адной –*
*Крыжы і хаты нашы*
*скошаны пажарам!*

*Так гаспадарым мы і дома*
*і за домам,*
*Усё ждучы пацехі з севу і жніва,*
*Ждучы дарма,*
*як летам жджэ расы трава.*

*Чужы і свой хлеб станавіцца*
*жорсткім комам*
*І душыць кліч:*
*ці доўга будзе нам заломам*
*Варшава панская*
*і царская Масква?*

Як бачым яскрава, Купала, акрывавіўшы сваю душу болем, напісаў гэтыя радкі восенню 1918-га, у час цяжкіх падзей, калі будучае краіны Беларусь разыгрывалася калі не як казырная, то палітычна неабходная карта. Ды і сёння мы не маем ніякага права закінуць папрок тагачаснаму Купалу, што ён мог непачціва аднесціся да польскага і расійскага народаў, якія ён глыбока паважаў. Купала таксама ёсць і вялікім Купалам, што мог з «цэлым народам гутарку весці», як шанаваць, падтрымліваць, так і гаварыць з ім на падмурку нацыянальнага генія сурова. Скажам, у вершы «У вырай» (восенню таго ж 1918-га) ён выказаў свой глыбокі смутак у сувязі з адлётам птушак, без якіх ні адзін край на свеце не можа быць замілаваным, але дакорліва зрабіў строгую вымову беларусам:

*Вы ня ўмеце йшчэ, гусі,*
*Выракацца Беларусі,*
*Як умеюць людзі.*

Савецкая Беларусь была аб'яўленая на пачатку 1919-га ў час яго прабывання ў Смаленску (па дарозе з Масквы ў вызвалены ад кайзераўцаў Мінск яго наведваюць беларускія дзеячы і пісьменнікі Зм. Жылуновіч і Я. Дыла, падрабязна раскажуць, як гэтага ўдалося дабіцца, і з радасцю паведамяць яму і ягонай жонцы, што створана БССР і на чале яе ўрада абраны Зм. Жылуновіч, а Дыла – камісарам працы (галоўныя камісарыяты дасталіся Мяснікову і яго прыхільнікам).

## Чалавек вялікага сэрца

***У пачатку студзеня 1919 года мы ехалі з Масквы на работу ў Мінск праз Смаленск, дзе ў гэты час адбываўся з'езд прадстаўнікоў партыйных арганізацый Смаленскай вобласці і Заходняга фронту. У Смаленску жыў тады Янка Купала. Даведаўшыся ад Цішкі Гартнага, што ўвечары ён збіраецца пабачыцца з Янкам Купалам, я папрасіўся пайсці разам з ім, каб пазнаёміцца з вядомым пісьменнікам, якога дагэтуль ведаў толькі па яго творах.***

Трапіўшы на аддаленыя ад цэнтра горада вуліцы, мы марудна ішлі ў цемры. Нарэшце ўбачылі дамок, дзе жыў паэт. Пастукалі. Праз некаторы час пачуліся крокі, і жаночы голас спытаў:

– Вы да каго?

– Мы да Купалы Янкі!

Нам адчыніла дзверы маладая ветлівая жанчына.

– Заходзьце, калі ласка! – запрасіла яна. – Будзем знаёмы... Янка толькі сёння к вечару прыехаў са сваёй прадкомаўскай камандзіроўкі, стаміўся і лёг адпачыць... Распранайцеся, калі ласка, і праходзьце ў пакой!.. Я зараз разбуджу яго. Ён будзе рады пабачыцца са сваімі людзьмі, бо жывём у вялікай адзіноце і рады кожнаму чалавеку з Беларусі.

Перад намі была Уладзіслава Францаўна, такая дзейная, клапатлівая, гаваркая. Яна разбудзіла Купалу, і праз некалькі хвілін мы ўбачылі пісьменніка, які з усмешкай ветліва цісну ў нам рукі.

Мы селі. Купала скруціў казіную ножку, набіў яе тытунём, закурыў.

– Як жывецца? – спытаў Цішка Гартны.

– Няма чым хваліцца. Ды і не дзіва – колькі часу фронт непадалёку быў... Я служу ў тутэйшых наркампрадаўскіх арганізацыях і часта бываю ў вёсцы... Бачу, як жыве яна зараз. Заняпад страшэнны. Але нічога: народ, пажыўшы без цара і паноў, як спяваецца ў песні, усё набудзе і зажыве добра... Дух у селяніна бадзёры; у яго свярбяць рукі да вольнай працы на зямлі, – гаварыў Купала і нарэшце спытаў: – Якія ж у вас навіны? З чым едзеце на радзіму?

– Едзем будаваць вольную Беларусь! – у адзін голас адказвалі мы.

Калі ж Купала даведаўся, што ствараецца Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, што пра гэта днямі будзе апублікаваны маніфест урада рэспублікі, ён дужа ўзрадаваўся.

– Вось гэта радасная навіна! – усклікнуў паэт. – Уладзя! – паклікаў ён жонку, якая завіхалася ў другім пакоі. – Чуеш, якая навіна!

– Чую, чую! І рада ёй, як і ты! – адказала Уладзіслава Францаўна.

Купала не мог сядзець спакойна.

Ён падняўся, пачаў хадзіць па пакоі. Твар яго паружавеў, ажывіўся.

– От да якой радасці дажыў прыгнечаны вякамі наш беларускі народ! Пачакайце, свет здзівіцца, як мы цяпер закрочым наперад... Жыве наша Беларусь! – з захапленнем гаварыў ён.

Мы спыталі, ці піша Купала зараз.

– Пішу зараз рэдка... Цяперашняя мая служба адбірае так многа часу і так стамляюць раз'езды, што не да творчасці.

Вестка аб стварэнні Беларускай рэспублікі ўсхвалявала Янку Купалу, і ён зноў вярнуўся да гэтай тэмы.

– Што ж, цяпер патрэбны работнікі ў Беларусь. Яны ёсць у нас, але ж параскідаліся ўсюды. Прыйдзецца збіраць іх!

Я назваў імёны беларусаў, што працавалі ў Маскве па розных установах. Ужо многія з іх прыняты Беларускім камісарыятам на ўлік і будуць выкліканы на работу ў Беларусь.

– Я даўно чакаю таго дня, каб вярнуцца ў Беларусь, – сказаў нам паэт. – Мне хочацца хутчэй уключыцца ў літаратурную работу і пачаць больш пісаць твораў аб новым жыцці нашага народа.

Час праляцеў непрыкметна. Трэба было ўжо ісці на вакзал, і мы развіталіся з ветлівымі гаспадарамі.

Сустрэцца зноў з Я. Купалам давялося мне ў Мінску ў 1921–1924 гадах у так званай тэрміналагічнай камісіі Наркамата асветы.

Была тады вялікая патрэба ў распрацоўцы тэрміналогіі ў нашай мове. Купала прымаў у гэтай справе самы актыўны ўдзел. Мяне ўразіла, як добра ведае Я. Купала народныя назвы раслін, насякомых і жывёлін.

...Як вядома, паэт з захапленнем працаваў над празаічным і вершаваным перакладамі «Слова аб палку Ігаравым». Купала падышоў да гэтай работы вельмі грунтоўна. Ён старанна вывучаў важнейшыя артыкулы і пасобныя выданні, у якіх тлумачацца незразумелыя месцы тэксту «Слова».

Паэт казаў, што праца над перакладам «Слова» хоць і была цяжкай, але прынесла яму вялікае задавальненне. Ён аддаў ёй многа сіл і часу, бо хацеў захаваць своеасаблівасць гэтага высокамастацкага твора.

– Я так зжыўся з творам, – сказаў аднойчы Купала, – што, зрабіўшы пераклад, як бы адчуў сябе саўтарам «Слова» і гляджу на гэту сваю працу як на сваю ўласную творчасць.

1 студзеня 1919 году

*Рукапіс Маніфеста Часовага Рабоча-Сялянскага Урада Беларусі*

У 1922 годзе было заснавана выдавецкае таварыства. Купала, як член праўлення таварыства, куды ўваходзіў і я, актыўна працаваў пры складанні планаў першых выданняў. На яго ж плечы лёг і выпуск выданняў, сувязь з друкарняй паліграфтрэста. А сачыць за друкаваннем кніг трэба было пільна, бо друкарні тады працавалі дрэнна. Купала ж да гэтага часу меў ужо значную выдавецкую практыку ў Вільні.

Успамінаецца, як паэт абурыўся аднойчы пры сустрэчы з дырэктарам паліграфтрэста, які спрабаваў тлумачыць патрабаванні Купалы як выдавецкі капрыз. Выняўшы са сваёй папкі поўны памылак набор, нядбайна выпраўлены пасля некалькіх карэктур, Купала пытаўся ў яго:

– Гэта што такое, па-вашаму? Як не сорам гаварыць пра нашы капрызы! Ставіце на разбор шрыфту замест сталага наборшчыка вучняў і хочаце, каб мы з гэтакім наборам мірыліся! Не, так не выйдзе! Давайце работу належнай якасці.

*Фотакопія ліста Я. Карскага Я. Купалу, дзе даецца ацэнка перакладу «Слова аб палку Ігаравым»*

Пазней давялося мне бачыць Янку Купалу на рабоце ў Інстытуце беларускай культуры. Яго цікавіла тады не адна толькі літаратурная секцыя. Мы часта бачылі Купалу на пасяджэннях тэатральнай падсекцыі мастацкай секцыі інстытута, на дакладах дырэкцыі БДТ-1 аб рэпертуары на 1923 год і іншых.

Памятаю, як Купала патрабаваў ад артыстаў добрага ведання беларускай мовы, правільнага вымаўлення беларускіх слоў. Ён прыводзіў прыклады памылак са спектакляў «Паўлінка», «Пінская шляхта», зазначаў, што іншы раз ужытае няправільна слова мяняе ўсю фразу і надае ёй інакшы сэнс.

***Мне давялося шмат разоў бачыцца з Я. Купалам, гутарыць на розныя тэмы. Не ўсё ўтрымала памяць. Але вобраз народнага песняра Беларусі захаваўся як вобраз чалавека сціплага і настойлівага, чалавека вялікага сэрца, які штодзённа жыў клопатамі аб развіцці беларускай сацыялістычнай культуры, мастацтва і літаратуры.***

**Язэп ДЫЛА**

**Даведка.** *Язэп Дыла (1880–1973) – беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. У першым савецкім беларускім урадзе быў камісарам працы. Пасля арышту ў 1930 г. жыў у Саратаве. Аўтар шматлікіх гістарычных празаічных твораў, артыкулаў на тэатральныя тэмы.*





# Колькасная рэпрэзентацыя мастацкіх вобразаў герояў імёнамі асобы ў паэме Якуба Коласа «Новая зямля»

***Імёны асобы або разнастайныя найменні чалавека займаюць у мастацкай літаратуры цэнтральнае месца не толькі па сваёй ступені ўжывальнасці сярод знамянальных слоў, але і па ролі, якую яны адыгрываюць у адпаведным тэксце. Менавіта вакол імён асобы (найменняў герояў) разгортваюцца сюжэтныя лініі твора, моўнымі сродкамі якога ствараюцца пэўныя вобразы дзейных асоб; невыпадкова мастацкую літаратуру называюць чалавеказнаўствам.***

**У** паэме Якуба Коласа «Новая зямля» імёны асобы сустракаюцца практычна на кожнай старонцы твора, а на многіх з іх па некалькі разоў. Усяго на 400 старонках надрукаванай паэмы (Мінск: «Беларусь», 1968) намі зафіксавана 2 800 словаўжыванняў, звязаных з найменнямі чалавека, г.зн. у сярэднім на кожную старонку прыпадае 6,1 словаўжыванняў, з іх 439 розных найменняў (варыянтныя назвы тыпу Антось і Антоні, Міхась і Міхал, маці і матка і да т.п. лічыліся адным словам). Усе адзначаныя ў творы імёны асобы падлягаюць тэматычнай класіфікацыі на наступныя групы, размешчаныя ў парадку іх колькаснага змяншэння (першая лічба ў дужках абазначае абсалютную колькасць словаўжыванняў, другая – працэнтную долю ў складзе ўсіх занатаваных найменняў асобы): уласныя імёны (956, 34, параўн.: Алесь, Міхал, Костусь, Амбрыцкі і інш.), найменні сваякоў (684, 24, параўн.: бацька, брат, дзядзька, маці і інш.), словы, якія абазначаюць сацыяльнае становішча людзей (340, 12, параўн.: пан, селянін, князь, мужык і інш.), агульныя назвы асоб (249, 8, параўн.: чалавек, кабета, мужчына, гаспадар і інш.), найменні людзей па прыкмеце ўзросту (240, 8, параўн.: хлопец, дзяўчына, старэча, дзеці і інш.), назвы людзей па прафесіі (166, 6, параўн.: бортнік, ляснічы, настаўнік, кандуктар і інш.), словы з адмоўнай характарыстыкай чалавека (46, 2, параўн.: дабрадзей, галубочак, дружка, мілы і інш.); невялікую групу складаюць словы са значэннем нацыянальнасці, месца жыхарства чалавека (5, беларус, азіят, свержанёвец, мікалаевец, русаковец).

З прыведзеных колькасных дадзеных відаць, што найбольш значную групу складаюць уласныя назвы людзей, на якія прыпадае звыш трэці ўсіх словаўжыванняў са значэннем асобы. Уласныя назвы адносяцца да найменняў адзінкавых асоб, з'яўляюцца ў гэтым плане найбольш сканкрэтызаванымі і ствараюць апазіцыю з агульнай назвай чалавека, якіх у творы сустракаецца амаль у чатыры разы менш, што можа сведчыць пра імкненне паэта не проста выкарыстаць імя асобы, а максімальна індывідуалізаваць яе шляхам ужывання асабовага імені. Найбольш частотныя з апошніх размяркоўваюцца па сваёй частотнасці ў наступнай паслядоўнасці: Міхал (250), Антось (119), Костусь (59), Алесь (56), Яська (27), Уладзя (26), Амбрыцкі (20). Частата выкарыстання гэтых імён даволі відавочна звязваецца з месцам і роляй зазначаных асоб у творы.



*Героі паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» на ілюстрацыях В. Шаранговіча да падарункавага выдання твора на беларускай, рускай і польскай мовах.*





**Д**ругую апазіцыю ў паэме складаюць групы найменняў з адмоўнай і станоўчай характарыстыкай чалавека, прычым першыя сустракаюцца ў два з паловай разы часцей. Падобнае колькаснае размеркаванне памянёных найменняў сведчыць не столькі пра аб'ектыўныя звесткі аб добрых і дрэнных людзях, колькі пра выбарачнае стаўленне паэта да іх. Адзначым, што імёны асобы з адмоўнай характарыстыкай, як правіла, з'яўляюцца больш экспрэсіўнымі, а агульная сума іх розных адзінак перавышае амаль у шэсць разоў колькасць розных найменняў асоб з дадатковай ацэнкай. Асіметрыя ў частотнасці ўжывання назіраецца не толькі ў памянёных апазіцыйных групах, але і паміж супрацьпастаўленымі словамі ўнутры амаль кожнай групы. Так, сярод назваў сваякоў слова дзядзька сустракаецца 274 разы, а яго жаночы візаві цётка – толькі 15 разоў, слова брат адзначана 163 разы, а сястра – толькі тры. У групе слоў са значэннем сацыяльнага становішча чалавека слова «пан» мае частотнасць 200, а супрацьпастаўленыя яму словы мужык, селянін у суме толькі пяць разоў; сярод назваў людзей па ўзроставай прыкмеце слова «хлопец» сустракаецца 95 разоў, а «дзяўчынка» – 28, слова «дзеці» – 45 разоў, а «старшыя» – тры і г.д.

У колькасных дадзеных звычайна праяўляюцца пэўныя якасныя характарыстыкі, таму адзначаныя асаблівасці нераўнамернага ўжывання згаданых груп слоў і асобных лексем сведчыць пра пэўную выбарачнасць прыярытэтаў, якім аддае перавагу Якуб Колас пры адлюстраванні рэчаіснасці і стварэнні паэтычных вобразаў сваіх герояў.

*Браніслаў ПЛОТНІКАЎ*

*(Паводле зборніка «Каласавіны», 2001)*

**Ад рэдакцыі.** *Доктар філалагічных навук Б. Плотнікаў быў вельмі арыгінальны даследчык-мовавед і, як можам прадбачыць па вышэйпрачытанай публікацыі, склаў цікавую картатэку Коласавых «новазямельцаў». Рэпрэзентацыя (лац.) – прадстаўніцтва каго-небудзь, чаго-небудзь.*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*

***(Працяг. Пачатак у №№ 3–31)***

*1920 год.* У лютым атрымлівае павышэнне па службе: прызначаецца школьным інспектарам. Зразумела, аклад пабольшаў, але і працы не паменшала: трэба было кантраляваць 25 школ. Ды выкройвае час і піша ўжо 19-ты раздзел паэмы «Новая зямля». У гэтым годзе ў Вільні пабачыла свет «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага, дзе «ўпершыню ў гісторыі навукова-крытычнай думкі мастацкая дзейнасць Я. Коласа разглядалася ва ўзаемасувязі з агульна-літаратурным працэсам як з'ява гістарычнага развіцця грамадскай, нацыянальнай, эстэтычнай свядомасці народа» (М. Мушынскі), і пісьменнік будзе названы класікам беларускай літаратуры.

*1921 год.* З лютага Наркамасветы БССР пачынае захады «ко всем советским учреждениям и должностным лицам» у Абаяні з просьбай паспрыяць Якубу Коласу і яго сям'і вярнуцца на радзіму. Паколькі тамашнія ўлады не вельмі жадалі адпускаць выдатнага педагога, то прыйшлося звяртацца і да народнага камісара асветы СССР А. Луначарскага. Толькі тады справа скранулася з месца.

«Помніцца і пераезд з Куршчыны ў Менск, – пісаў у кнізе "Любіць і помніць" старэйшы Коласаў сын Даніла Міцкевіч. – Нам далі невялікі двухвосевы таварны вагон, вельмі забруджаны. Дзядзька Саша, мама і бабка Марыя Цімафееўна два дні чысцілі яго, мылі, пасля чаго мы пагрузілі свой невялікі скарб, а таксама дзве казы... На Куршчыне жылося цяжка, мы часта галадалі. Таму козы ратавалі нас, асабліва дзяцей... Ехалі доўга і марудна... У Менск мы прыехалі 15 мая 1921 года. Чамусьці сам момант прыезду мне не запомніўся, хаця сучасніці адзначалі вельмі цёплы і ўрачысты прыём Коласа сустракаўшымі... Спачатку мы жылі кватарантамі ў двары пана Русецкага... У 1926 годзе бацькі выраршылі будаваць сабе хату... Для пабудовы дома знайшлі ўчастак, які ўяўляў сабой сад, пасаджаны хутчэй за ўсё ў канцы мінулага стагоддзя. Участак знаходзіўся ў пачатку 2-га Шпітальнага завулка (пазней і цяпер – Вайсковы завулак) пры ўваходзе ў гарадскі парк, які тады насіў назву – імя Прафінтэрна. Пасля вайны месца сядзібы ўвайшло ў тэрыторыю парку імя Горкага».

Да 1926-га яшчэ няблізка, а пасля 15 мая 1921-га Колас асвойваецца ў сталіцы новай рэспублікі-дзяржавы (сустракаецца са знаёмымі, выступае перад працоўнымі, пачынае працаваць у Акадэмічным цэнтры Наркамасветы БССР членам навукова-тэрміналагічнай камісіі, уступае ў члены прафсаюза работнікаў асветы БССР, наведвае Слуцк, дзе знаёміцца з настаўніцкімі курсамі; пазней яго запросяць туды і выкладаць). Піша новыя вершы і апавяданні, сем раздзелаў «Новай зямлі», аўтабіяграфію па просьбе Я. Карскага, працягвае працу над паэмай «Сымон-музыка».

*1922 год.* Пачатак яго азнаменаваўся буйной падзеяй не толькі ў Коласавым жыцці: 30 студзеня на базе навукова-тэрміналагічнай камісіі быў заснаваны Інстытут беларускай культуры – першая шматгаліновая навукова-даследчая ўстанова БССР.



*У 1995 г. музею былі перададзены матэрыялы, што датычаць сям'і князя Абаленскага, чые землі знаходзіліся на тэрыторыі Чэрыкаўскага раёна. Перададзены прамым нашчадкам князя Аляксея Аляксеевіча Абаленскага, які пражываў на той час у далёкай Канадзе. Дакументы ўключалі ў сябе ксеракопіі фотаздымкаў з сямейнага архіва знакамітай сям'і, а таксама радавое дрэва, план маёнтка, які ў пачатку XIX стагоддзя знаходзіўся ў вёсцы Горкі Чэрыкаўскага раёна. У матэрыялы, перададзеныя ўнукам князя Абаленскага Аляксеем Андрэевічам Бакеевым, уваходзілі і некаторыя старонкі з дзённіка дачкі князя Абаленскага Зоі, якая апошнія дні жыцця таксама правяла за мяжой, марачы, каб памяць пра яе продкаў засталася на Чэрыкаўскай зямлі.*

*Радавое дрэва сям'і Абаленскіх уключае ў сябе шэсць пакаленняў знакамітага роду, а захаваныя больш як праз сто гадоў фотаздымкі гавораць пра вялікае шанаванне нашчадкамі сваіх знакамітых продкаў.*

*Што да дзённіка Зоі Абаленскай (па мужу Бакеевай), то ў ім яна напісала пра жыццё ў маёнтку Горкі і аб тым, як загінула ў 1918 годзе апошняя ўладальніца маёнтка Алена Канстанцінаўна Абаленская, яе маці.*

# Гісторыя сям'і Абаленскіх з Чэрыкаўскага раёна

### *Чэрыкаўскі маёнтак*

Супрацоўнікамі Чэрыкаўскага гісторыка-краязнаўчага музея праведзена вялікая праца па вывучэнні матэрыялаў, перакладзе дзённіка і даследаванні шматлікіх фотаздымкаў. Вывучэнне радавога дрэва сям'і дало магчымасць узнавіць храналагічна, адкуль пайшоў знакаміты род Абаленскіх.

Згодна даследавання, першым уладальнікам земляў, якія надалей належалі Абаленскім з 70-х гадоў XVIII стагоддзя да пачатку 40-х XIX стагоддзя, быў Павел Хрыстафоравіч Маруцы. Вядома, што ў гэты перыяд яму належалі 10 вёсак Чэрыкаўшчыны – Езеры, Доўгая, Дуброўка, Горкі, Мірагошч, Журавель, Сакалоўка, Прыпечына, Рагаліна, Рындаўка.

Наступным уладальнікам быў граф, сябра Дзяржаўнага Савета Расійскай імперыі, генерал-ад'ютант ад артылерыі Сяргей Паўлавіч Сумарокаў. Лічыцца, што ён прадаў маёнтак на пачатку 1870-х гадоў князю Аляксею Абаленскаму.

Рукапісы, атрыманыя з Канады ў 1995 годзе, унеслі некаторыя карэктывы ва ўжо існую версію.

Зоя Абаленская-Бакеева ў сваіх успамінах пачынала з таго, як яе продкі атрымалі права на ўладанне маёнткам.

...Быў некалі ў Малдавіі гаспадар Скарлацы Гіка, якога абезгалавілі туркі. Яго сям'я збегла ў Расію, папрасіўшы прытулку ў Кацярыны II. Імператрыцай была прадастаўлена ўдаве Алене Гіка «зямля ад Прапойска да Чэрыкава з 14 вёскамі». Пасля дачка малдаўскага ўладара Зоя Гіка выйшла замуж за маркіза Пола Маруцы, які быў паслом Кацярыны II у Венецыі, меў палац на плошчы святога Марка. Іх дачка Аляксандра выйшла замуж за Сяргея Паўлавіча Сумарокава. Атрымлівацца, што чэрыкаўскі маёнтак выступаў на першапачатковых этапах сваёй гісторыі ў якасці пасагу.

Ў далейшым дачка Сумарокавых выйшла замуж за Аляксея Васільевіча Абаленскага. Дарэчы, мужам яе сястры Марыны быў князь Мікалай Галіцын.



*Маёнтак Абаленскіх у Горках*



*Алена Абаленская. Парыж, 1945 г.*

Пра іншую радню, чые імёны ўвайшлі ў гісторыю, сталі славай Расійскай імперыі, Зоя Аляксееўна распавядае так: «У 1899 годзе старэйшая сястра майго бацькі, цётка Кацярына, страціла мужа, вядомага прафесара Боткіна. Ён памёр у Ментоне, у Францыі, дзе двума гадамі раней памерла мая бабуля, пражыўшы там 25 гадоў са сваім другім мужам».

Але вернемся да «першых» Абаленскіх – Зоі і Аляксея Васільевіча. Маёнтак атрымаў у спадчыну іхні сын Аляксей – бацька аўтара рукапісу. Зоя Аляксееўна згадвае ў сваіх мемуарах пра надзвычай спакойнае жыццё ў маёнтку Горкі, называючы яго «домам сваёго дзяцінства».

Яскравыя яе ўспаміны пра народныя абрады і традыцыі. Напрыклад, як пасля завяршэння жніва праводзіліся «ўраджайныя танцы». Дзяўчаты ў лепшых строях і вянках прыходзілі да панскага дома і танцавалі паміж клумбаў. Пасля гаспадыня маёнтка адорвала ўсіх танцаўшчыц новымі хусткамі, а для ўсіх сялян ставіліся ў двары сталы з пачастункам. Гаспадыню звалі Алена Канстанцінаўна.

### *Трагічныя моманты ў гісторыі маёнтка Абаленскіх*

1918 год быў азначаны падзеямі трагічнымі і шчодрымі на страты для многіх людзей, як багатых, так і беднякоў. Уладальнік маёнтка Аляксей Васільевіч у той час ужо скончыў зямны шлях, ён раптоўна памёр ад запалення лёгкіх і быў пахаваны на тэрыторыі маёнтка ў фамільным склепе. У маёнтку жыла княгіня Алена Канстанцінаўна з сынам Міхаілам. Дзве яе дачкі, Зоя і Марына, на той момант знаходзіліся ў родных у Кіеве.

17-гадовага Міхаіла Абаленскага ў дзень разгрому маёнтка выратаваў... зубны боль. Ён выправіўся да доктара ў Чэрыкаў. Тым часам узброеныя сяляне ўварваліся ў маёнтак. Пазней сведкі распавядалі Зоі Аляксееўне, што ў ліку тых, хто нападаў, был хрэснік яе маці, які і застрэліў яе. Княгіня бегала з кута ў кут, хаваючыся за мэбляй, а «хрэснічак» няўмела страляў па жывой мішэні, пакуль не пацэліў у галаву. Тады ж былі забітыя яшчэ 6 чалавек, а дом падпалены. Апалелыя з жахам назіралі пагром, схаваўшыся ў куратніку. Адзін з верных людзей паспяшаўся ў Чэрыкаў папярэдзіць Міхаіла Абаленскага пра бяду. Маладому князю дапамагалі потым іншыя сяляне, якія пераапранулі яго ў сваё адзенне, схавалі, а затым выдавалі за свайго родзіча. Міхаіл Аляксеевіч жыў за мяжой да 1960 года.

Забітую княгіню Абаленскую пакаеўка Дуня і цясляр пахавалі ў сямейным склепе побач з мужам. Цяпер ужо ніхто не ведае, у якія часы быў разгромлены і сам склеп. Ад мармуровых плітаў ды княскіх надмагілляў засталіся толькі фрагменты.

У Чэрыкаўскім музеі захоўваецца старадаўняя кніга без вокладкі, пра якую жыхар вёскі Горкі, што аддаў яе, сказаў: кніга была знойдзена ў магіле пана.

Дарэчы, пасля перадачы ў музей дакументаў з Канады адной з жыхарак вёскі Горкі прыходзілі лісты ад унучкі апошняй уладаркі маёнтка – Зоі Петэрсэн, якая, у прыватнасці, запытвала: «Чаму на месцы склепа такія ямы? Чаму там капалі?»

Шукалі багацця – знайшлі кнігу па гісторыі Айчыны.

Кіраўніцтвам Чэрыкаўскага раёна была праведзена праца па добраўпарадкаванні месца пахавання знакамітай сям'і. Там усталявана надмагілле і камень з надпісам на старaславянскай мове. Супрацоўнікамі Чэрыкаўскага гісторыка-краязнаўчага музея распрацаваны план для выязной экскурсіі на месца былога маёнтка сям'і Абаленскіх у вёску Горкі. У экспазіцыі музея адкрыты стэнд з матэрыяламі пра знакамітую сям'ю. Для яго выкарыстоўваўся матэрыял, дасланы з Канады княскім нашчадкам.



*Дзеці Абаленскіх, якія жылі ў Горках (Марынка, Міша, Зоя)*



*М.А. Абаленскі. Нью-Йорк, 1960 г.*

*А на тэрыторыі былога маёнтка штовесну расцвітаюць стакроткі, якія захаваліся з часоў, калі маёнтак быў увесь у кветкі. І цяпер яны цвітуць, служачы нам напамінкам пра цікавую старонку гісторыі Чэрыкаўшчыны. Буяюць ужо практычна сто гадоў, з года ў год, ранній вясной!*

*Ганна АНІСІМАВА,*
*старшы навуковы супрацоўнік*
*Чэрыкаўскага гісторыка-краязнаўчага музея*

# Ксёндз Жыскар – пілігрым і пакутнік

***Ксёндз Юзафат Фрэдэрык Жыскар нарадзіўся ў 1868 годзе. Ягоным бацькам быў католік француз, а маці – немка, пратэстантка. У Пецярбургскім кадэцкім корпусе, куды яго аддалі вучыцца, ён пачаў наведваць лекцыі па каталіцкай рэлігіі. Яны гэтак захапілі, што 18-гадовы юнак пасля заканчэння кадэцкага корпуса паступае ў Пецярбургскую духоўную семінарыю, якая належала да Магілёўскай архідыяцэзіі.***

Пасля заканчэння семінарыі Жыскар служыць вікарным ксяндзом пры касцёле святой Кацярыны ў Пецярбургу. Там ён стварае прытулак для ўбогіх дзяцей, якіх сам вучыць ды корміць. Але за актыўную дзейнасць на карысць каталіцкай веры сярод расейцаў кс. Жыскар па загадзе паліцыі высылаецца з Пецярбурга. З правінцыі ён здолеў выехаць за мяжу і дабрацца да папы Льва XIII, якому распавёў пра цяжкасці служэння каталіцкай веры ў Расійскай імперыі і раіў даручыць гэтую справу езуітам. З Ватыкана кс. Жыскар нелегальна вярнуўся ў Пецярбург, дзе стаў праводзіць патаемную катэхізацыю.

У 1896 годзе, згодна з маніфестам з нагоды каранацыі Мікалая II, які, між іншым, абвяшчаў амністыю і тым, «хто правінаваціўся перад пануючай верай», кс. Жыскар быў амніставаны і накіраваны пробашчам у Дэрпт (сучасны г. Тарту ў Эстоніі). Там, нягледзячы на шматлікія службовыя абавязкі, ён знаходзіў час на патаемныя выезды на Міншчыну ды Падляшша дзеля рэлігійных паслугаў «недабіткам былых уніятаў».

Аднойчы ўначы, падчас аказання ў лесьнічоўцы рэлігійных паслугаў «упартым», кс. Жыскара арыштаваў паліцыянт, але адданыя святару вернікі вызвалілі яго ды схавалі.

Пасля гэтага ён патаемна прыехаў у Вільню, дзе ў келлі былога бернардзінскага кляштара абсталяваў капліцу, куды дзеля рэлігійных паслугаў пацягнуліся ўніяты з усяго краю. Ён пасяліўся ў сваёй маці, якая жыла з дачкою, што была замужам за праваслаўным афіцэрам. Кс. Жыскар паведаміў ім пра тое, з якой мэтаю з'явіўся ў Вільні, і, нягледзячы на рознасць у веравызнаннях, атрымаў разуменне і пэўную дапамогу. Аднак у хуткім часе ён быў ізноў высачаны паліцыяй, і яму давялося ўцякаць за мяжу.

У Італіі, паблізу Рыма, Жыскар заснаваў таварыствы святых Юзафата ды Юзафатак, каб рыхтаваць місіянераў для працы ў Расійскай імперыі сярод уніятаў. Але хутка гэтыя таварыствы з-за нястачы сродкаў перасталі існаваць. Сам жа ў цывільнай вопратцы вярнуўся ў Расійскую імперыю і зноў пачаў місіянерскую дзейнасць сярод уніятаў. Але ў хуткім часе быў арыштаваны ў Дынабургу (Дзвінску, цяпер – Даўгаўпілс) і зняволены ў Варшаўскай цытадэлі. Неўзабаве атрымаў чарговы прысуд: 5 гадоў выгнання ў аддаленыя губерні Расіі. Ён адбываў пакаранне ў Валагодскай губерні, служыў ксяндзом у Кастрамской, а потым у Чарнігаўскай губернях; і ўрэшце ўлады дазволілі яму выехаць на Каўказ. Там, у Сухум-Кале, каля Чорнага мора, ён напісаў кнігу ўспамінаў «*Polacy w rozproszeniu. Tulacz tulaczom poswiaca. Wspomnienia z pietnastu lat prac kaplanskich w Cesarstwie*». Прадмову да яе ён падрыхтаваў яшчэ ў Іркуцку, дзе служыў пробашчам. А самі ўспаміны пабачылі свет у 1909 годзе ў Пецярбургу.

У 1908 годзе кс. Жыскар звярнуўся да якуцкага губернатара з просьбай даць звесткі пра састарэлых сасланых туды паўстанцаў 1863–1864 гадоў, «якія жадалі б паехаць на радзіму і там бязбедна і ціхамірна правесці апошнія гады свайго жыцця», і якім «ён адразу вышле грошы, неабходныя на дарогу».

Пра іркуцкі перыяд свайго жыцця ён апавёў у артыкулах «*Obrazki z Syberyi*» – («Przeglad Katolicki». №№ 3, 4, 5, 8, 17, 19 за 1912 г.) Напісаў таксама брашуру «*Kilka slow o szukaniu chleba na obszczyznie*». Пасля таго, як адбылася пілігрымка да Чэнстаховы з Пецярбурга, Міншчыны і Магілёўшчыны, кс. Жыскар надрукаваў кніжку «*Wspomnienia z pielgrzymki z Mohylewskiej archidiecezji do Czestochowy w 1912 r.*» (W-wa, 1912). Успамінаючы пілігрымаў з Магілёўшчыны, кс. Жыскар піша: «Па сёння яшчэ стаіць у маёй памяці ўбогая кабета, якая прынесла ў бруднай анучцы медзякі і прамовіла: "Papunieczku (гэтак тут называюць святара. – **А. Б.**), *zrachuj hroszy, toz ja usio prodala i mleko i jajka i maslo i chsteczku i nia wiedaju skoli tamaczka jesc?*" А ўвесь яе мазольны капітал заледзьве складаў 8 руб. 40 кап. І хто ж бы ня меў сэрца не забраць яе?».

З вялікім замілаваннем піша кс. Жыскар пра жыхароў вёскі Фашчаўка (цяпер у Шклоўскім раёне Магілёўскай вобласці), з якой у пілігрымку да Чэнстаховы выправілася 13 чалавек. «Люд вакол не гаворыць па-польску, а захаваў чыстую сваю беларускую мову. Вялікія намаганні прыклалі езуіты, каб не страцілі яны сваёй беларускай мовы. Выдалі ім беларускі катэхізм, прамаўлялі да народу казанні ў ягонай мове, у касцёле вялі беларускія спевы. І сёння яшчэ кожны селянін дасканала ўмее спяваць беларускую песню "Ах, мой Божа! Веру Табе", і сапраўднае глыбока велічнае ўражанне робіць, калі аграмадная сціжма народу, што ідзе на фэст, як бы адною груддзю заспявае, а гэтая пекная мелодыя напаўняе і цвінтар, і святыню. Фашчаўка да таго захавала свой нацыянальны беларускі характар, што да сёння яе жыхары апранаюцца ў беларускі строй. Спадніца з простай саматканкі, белая кашуля з вышыванкай, уласцівы спосаб павязвання хусткі на галаве – вось тыповы строй кабеты з Фашчаўкі, якія адрозніваюцца амаль ад усіх сваіх суседак».

Па прыбыцці да Яснай Гары пілігрымы-магілеўчане заспявалі па-беларуску:

*«О мой Божа, веру Табе...»*

У Дэрпце кс. Жыскар распачаў разам з кс. Д. Банчкоўскім з Луцка – Жытомірскай дыяцэзіі – працу над апісаннем усіх касцёлаў. Ён апрацаваў матэрыял пра магілёўскія, віцебскія і мінскія касцёлы, і гэтыя звесткі выходзілі асобнымі сшыткамі, напрыклад: «*Nasze koscioly. Djecezja Minska. Pod redakcja ks. Jozafata Zyskara*». (W-wa, 1913). У іх, апрача цікавых фотаздымкаў касцёлаў і каталіцкіх дзеячаў, было змешчана шмат этнаграфічных здымкаў беларускага народа, пададзены цікавы гісторыка-этнаграфічны матэрыял. Гэтыя сшыткі склалі агульны том: «*Nasze koscioly. Opis wszystkich kosciolow i parafij znajdujacych sie na obszarach dawnej Polski i ziemiach przyleglych. Tom I. Archidjecezja Mohylowska. Ulozyli i wydali ks. D. Bacykowski i ks. J. Zyskar». (Warszawa-Peterburg, 1913).* На жаль, далейшай працы ў гэтым кірунку перашкодзіла Першая сусветная вайна.

Пад псеўданімам Агасфер кс. Жыскар выдаў кнігу пра сасланых у Сібір ксяндзоў: *X. Ahasfer «Tunka. Opowiadanie o wsi Tunka, dzie bylo na wygnaniu przeszlo 15-stu ksezy, oparte na wspomnieniach naocznych swiadkow i odnosnych dokumentach» (Poznan, 1914).*

Калі ў лістападзе 1915 года пры польскім Камітэце ў Маскве ўтварыўся Аддзел апекі над помнікамі мастацтва пад старшынствам М. Радзівіла, то ў яго кіраўнічы склад увайшоў Жыскар, які вышукваў па чыгуначных пакгаўзах ды складах лому Галоўнай управы артылерыі вывезеныя з раёна ваенных дзеянняў каталіцкія званы. А калі ў красавіку 1917 года ўтварыўся Звяз польскіх арганізацый апекі над помнікамі польскага мастацтва і культуры (куды ўваходзіў і мінскі аддзел), кс. Жыскар стаў намеснікам яго старшыні. Паводле інструкцыі, у кола зацікаўленняў звязу ўваходзілі «прадметы мастацтва, помнікі архітэктуры (збіранне фотаздымкаў), антыкварныя музейныя, бібліятэчныя, этнаграфічныя, рэлігійныя зборы, даўнія польскія строі, вайсковыя мундзіры, зброя і г.д.»

***Памёр кс. Жыскар у 1917 годзе ў Маскве на пасадзе вікарыя пры новым касцёле «на Грузінах».***

*Алесь БАРКОЎСКІ,*
*капітан-механік ц/п АС-21 ТАА СК «Якуцк»*
*(Рэспубліка Саха)*

*Землякі ў свеце*



# Ураджэнцы Беларусі ў арміі Андэрса падчас Другой сусветнай вайны

*Барыс БАРОЎСКІ*

**(Працяг. Пачатак у № 29–31)**

## *Аперацыі арміі (2- га польскага корпуса) на італьянскім фронце*

Пасля абарончых дзеянняў (04.02. – 23.03.1944 г.) у раёне ракі Сангра 2-гі польскі корпус 23 красавіка 1944 г. быў накіраваны ў раён Монтэ-Касіна і 27 красавіка заняў пазіцыі насупраць і направа ад вышыні Монтэ-Касіна з кляштарам. Асноўны цяжар баёў прыйшоўся на 3-ю карпацкую (камандзір - генерал Б. Дух) і 5-ю крэсаўскую (камандзір – генерал Н. Сулік) дывізіі корпуса. Гэтым злучэнням былі пастаўлены складаныя задачы: 3-я дывізія павінна была авалодаць вышынёй Монтэ-Касіна і кляштарам, а 5-я дывізія – ключавымі кропкамі на вышынях Відма (польск. – прывід, здань) і Сан-Анжэла. У складзе корпуса знаходзіліся і падтрымлівалі дзеянні 3-й і 5-й дывізій 2-я танкавая брыгада (камандзір – генерал Б. Ракоўскі), група артылерыі пад камандаваннем генерала Р. Адзяжынскага. Корпус налічваў 48 тыс. чалавек (па іншых звестках, каля 55 тыс. чалавек). Паласа наступлення корпуса не перавышала 2 км, а глыбіня нямецкай абароны дасягала 1,5 км. На 12 батальёнаў корпуса прыходзілася 7 батальёнаў адборных нямецкіх салдат.

На працягу двух тыдняў (перад пачаткам наступлення корпуса ў складзе саюзных войск) авіяцыя саюзнікаў сістэматычнымі налётамі разбурала шасейныя і чыгуначныя дарогі ў тыле нямецкіх войск. Вечарам 11 мая 1944 г. саюзныя войскі правялі 40-хвілінную масіраваную артылерыйскую падрыхтоўку, у час якой абрушылі на нямецкія пазіцыі сапраўдны шквал агню, які амаль цалкам вывеў са строю правадную сувязь нямецкіх часцей. Пасля артпадрыхтоўкі войскі саюзнікаў ноччу з 11 на 12 мая пачалі наступленне супраць злучэнняў і часцей 10-й нямецкай арміі.

Падраздзяленні 3-й і 5-й дывізій корпуса пры падтрымцы артылерыі пайшлі ў атаку: пачалі караскацца на вышыню Монтэ-Касіна і інш. Нямецкія салдаты сустрэлі іх шквальным агнём. Пяхота сутыкнулася з дотавымі перашкодамі, міннымі палямі. З вялікімі стратамі падраздзяленні 3-й і 5-й дывізій усё ж такі ўварваліся на вышыні 593 і Сан-Анжэла і завязалі рукапашныя баі. Некалькі разоў вышыні і бункеры на іх пераходзілі з рук у рукі. Тым самым была адцягнута ўвага нямецкага камандавання, што дало магчымасць брытанскім і французскім часцям прарваць «лінію Густава» на адлегласці 20 км ад Монтэ-Касіна і абыйсці няўдалае для саюзнікаў месца. Немцы былі часткова выбіты з пярэдніх ліній сваёй абароны ў раёне Монтэ-Касіна, але воіны корпуса замацавацца не змаглі. Яны панеслі ў цэлым вялікія страты, 13 мая здалі немцам завяяваныя пазіцыі і адступілі.

Па успамінах Якуба Конана (ён са сваёй часцю з Егіпта праз Порт-Саід па Міжземным моры прыбыў у італьянскі партовы горад Таронта), «нямецкая лінія абароны моцная была. З нашага боку раўніна, а дзе немцы знаходзіліся – высокія горы. Там былі іх наглядальнікі, якія бачылі нас як на далоні. Таму наступаць можна было толькі ноччу. Днём знаходзіліся пад маскіровачнымі сеткамі».

А вось як апісвае падзеі з 11 на 12 мая ў сваёй аповесці «Смерць і салаўі» ўдзельнік таго бою Пётра Сыч. Пад салаўіны веснавы марш воіны корпуса пайшлі ў наступленне пад кодавай назвай «Гэнкэр» (па-англійску азначае крык дзікіх гусей, якія вяртаюцца з выраю). Але тое, што пачалося а 23-й гадзіне 11 мая, ніяк нельга назваць «гэнкэрам» – крыкам дзікіх гусей, якія лятуць з выраю – мяккім, сумным, лагодным, настальгічным. Спачатку была праведзена магутная 40-хвілінная артылерыйская падрыхтоўка з гармат і мінамётаў. «Усё біла па пазіцыях праціўніка: дальнабойныя гарматы білі па далёкіх становішчах артылерыі, якія знаходзіліся ў 30 км ад пляца бою, іншыя вальцавалі ўвесь пляц, на які мелася наступаць. Зямля дрыжэла пад нагамі, зямля гарэла, а ў паветры вылі мільёны д'яблаў». Але вялікай шкоды немцам гэта не прынесла, паколькі яны мелі на адхонах моцна збудаваныя і замаскіраваныя сховішчы – бункеры, куды не магла дастрэліць артылерыя: на іх верхніх дэтанацыйных пластах з камянёў снарады разрываліся. Немцы адстрэльваліся слаба, але фарамі і ракетамі асвятлялі мясцовасць, што яшчэ больш павялічвала жахлівасць відовішча. Калі артылерыя корпуса перанесла агонь на далейшыя нямецкія пазіцыі – стала актыўна адказваць нямецкая артылерыя. Перад штурмам па сігнале «Наперад!» першымі пабеглі два патрулі размініраваць праходы, па якіх павінны былі ісці асноўныя сілы. Але паколькі ўсё поле было засыпана жалезам, і немцы ўжывалі драўляныя міны, то мінашукальнікі не спрацоўвалі, і сапёры былі вымушаны шукаць міны з дапамогай штыкоў. Хутка на сапёраў абрынулася стыхія нямецкага артагню і яны былі знішчаны. Паступіў заклік: «Хлопцы, наперад!», «Хто залягае – той гіне!», «Наперад!», і большасць пабеглі наперад. Беглі ў невядомае... Зямля ўзрывалася пад нагамі. Прастора асвятлялася пражэктарамі і ракетамі. Гарматы і мінамёты былі прыстраляныя. Кожны метр зямлі быў вымераны. Кожнае міннае поле абаранялася з бункераў. Нямецкая артылерыя вальцавала поле. Многія наступалі на міны і гінулі ад іх. На вузкім адрэзку паласы наступлення было зашмат войска, таму і страты былі вялікія. Дайшлі да месца дасягальнасці ручной зброі: шмайсераў і спандаў. Жаўнеры сталі залягаць у ямках ці пад скаламі. Пачынае губляцца кантакт з іншымі падраздзяленнямі. Радыё- і тэлефонная сувязь разбіты. Траціцца арыентацыя. Але гучыць: «Наперад!» Бункеры плююць волавам. Жаўнеры сталі падпаўзаць да іх і закідваць гранатамі або пятамі. Той-сёй бункер моўкне. Набліжаецца золак. Заставацца днём паміж бункерамі – смерць. Наступ заглох. Даецца загад адступаць. «Нялёгка было сходзіць з праклятай гары, пакідаючы там столькі сваіх жаўнераў і сяброў. Фактычна батальён быў разбіты». Але хутка дайшоў загад з дывізіі: «Любой цаной утрымаць здабытую пазіцыю, рыхтуецца другі наступ». Кінуліся зноў уперад. «А тут зямля гарыць пад нагамі: навокал бункеры, міны і пасткі... Заляглі і пачалі разбіваць бліжэйшыя бункеры».

**(Працяг на стар. 8)**

*(Працяг. Пачатак на стар. 7)*

Але з усходам сонца жаўнераў пачалі знішчаць снайперы праціўніка, замаскіраваныя на дрэвах ці за скаламі. Снайперы батальёна адкрылі па іх агонь. Аднак сітуацыя палепшылася нязначна, бо стралялі з далейшых нямецкіх бункераў, да якіх нельга было дапаўзці. Пачала пагражаць нястача амуніцыі, якую днём немагчыма даставіць. Пекла павялічвалі енкі параненых, якіх не было каму зносіць з гары, бо санітары былі або забітыя, або не маглі прайсці праз агонь. У гэтых умовах камандзір батальёна аддаў загад сходзіць з гары. Жудаснае гэта было сходжанне. Амаль кожны здаровы нёс параненага ці поўз, везучы яго на плячах, пад агнём праціўніка. Многія параненыя засталіся на полі бою. «Пякло сонца, а вады ні кроплі. Камяні вострыя, рэжуць цела і рвуць вопратку. Людзі ўпадаюць у нервовы шок, зрываюцца і іх расстрэльваюць...». Урэшце жменька байцоў спаўзла са Здані. «Заляглі на заходніх пазіцыях, як цяжка параненыя звяры. Выглядалі жахліва: акрываўленыя, абдзёртыя, пакалечаныя, стомленыя і без кроплі вады...» Страты падраздзяленняў 3-й і 5-й дывізій за час гэтага штурму былі надзвычай вялікія.

Пасля штурму працягваліся сутычкі паміж падраздзяленнямі корпуса і нямецкай 1-й парашутна-дэсантнай дывізіяй. Адначасова воіны корпуса рыхтаваліся да новага штурму Монтэ-Касіна, які быў запланаваны на ноч з 17 на 18 мая. Разам з рэшткамі пяхоты да штурму рыхтаваліся, а затым і ўдзельнічалі ў ім усе рэзервы – пісары, вадзіцелі, кухары.

Па ўспамінах Якуба Конана, перад наступленнем да воінаў корпуса звярнуўся вярхоўны галоўнакамандуючы экспедыцыйнымі сіламі саюзных войск у Заходняй Еўропе амерыканскі генерал Д. Эйзенхаўэр і сказаў, «што шмат каму з нас больш не давядзецца бачыць сваіх блізкіх», «што нас чакае чорная ноч, і многія тут застануцца назаўсёды, немцы моцныя, але мы павінны зламаць іх... І заключны словамі: "З Богам у дарогу!". Пасля гэтага па даліне разляцелася рэха ад воклічу салдат і ўсюды былі бачны ствалы паднятых гармат. Я быў наводчыкам у палку лёгкай артылерыі. Забыць такое немагчыма».

17 мая вечарам корпус аднавіў наступленне на непрыступную лінію нямецкай абароны ў раёне Монтэ-Касіна пад кодавай назвай «Дыядэма». Немцы абараняліся ўпарта. Баі былі надзвычай цяжкімі і напружанымі. Але, тым не менш, з пачаткам штурму па ўсёй «лініі Густава» наступленне часцей корпуса і сіл саюзнікаў усё ўзмацнялася, у чым пераканаліся немцы.

Часці 5-й дывізіі корпуса сваім рашучым націскам акружылі гару Монтэ-Касіна, авалодалі бункерамі на ёй, ноччу 18 мая занялі кляштар і злучыліся з перадавымі атрадамі 3-й дывізіі. Такім чынам была пераламана «лінія Густава». Раніцай 18 мая часці корпуса здабывалі паасобныя ўзгоркі, не сустракаючы вялікага супраціўлення нямецкай пяхоты. У дзесяць гадзін дваццаць хвілін раніцы воіны патруля 12-га ўланскага палка 2-га польскага корпуса вывесілі польскі бела-чырвоны сцяг на руінах пакінутага немцамі кляштара.

Як успамінае Якуб Конан аб баі з 17 на 18 мая, «гітлераўцы ўмацаваліся ў гарах, іх пазіцыя была больш зручная. Мы ж знаходзіліся на раўніне. Артпадрыхтоўку праводзілі толькі ноччу, гарматы закопвалі ў зямлю. У гэту ноч наша батарэя выпусціла з гармат каля 800 снарадаў. Ствалы награваліся так, што чырванелі, і на іх лілі халодную ваду, каб астудзіць. Тры гарматы батарэі на працягу 10 хвілін білі снарадамі, а чацвёртую гармату палівалі вадой. У наступныя 10 хвілін палівалі другую гармату, потым трэцюю і г.д. на працягу ўсёй ночы. Ад разрываў было светла амаль як днём. Пасля таго, як нашы танкі абышлі ворага з тылу і пайшлі на варожыя танкі, наступіў карэнны пералом у баі. Хоць і з вялізнымі стратамі і ахвярамі, перамогу мы ўсё ж вырвалі. Там мы і сустрэлі перамогу. Званілі ўсе касцёлы! Чуліся крыкі радасці, гучалі мірныя стрэлы!», «пасля бою на месцы Монтэ-Касіна засталося поле. Горад быў поўнасцю спалены, ні аднаго дома, ад дрэў адны пні. Толькі квітнелі навокал чырвоныя макі... Шмат нашых там палягло. Як выйшла пятая дывізія, так і лягла ўся. Раніца прыйшла – паветра нават змянілася – такое цяжкае...»

Перамога часцямі 2-га польскага корпуса была здабыта дзякуючы належнай падрыхтоўцы і арганізацыі бою, дзякуючы волі да перамогі, мужнасці і гераізму яго воінаў. Вельмі пакаальна гераізм воінаў-беларусаў апісаны на прыкладзе беларуса Рыгора Буслака польскім пісьменнікам М. Ваньковічам: «Міна адарвала яму нагу. Салдат прыўзняўся на адной назе. Устаў... Хістаецца, увесь нейкі незвычайна вялікі і крывавы. Гаворыць: "Хлопцы, я пракладваю вам дарогу". Перш чым стаўся зразумелым сэнс яго слоў, салдат рухнуў уперад на сцяжынку на ўвесь свой рост. Узарвалася міна... Астатнія пайшлі наперад па целе свайго таварыша».

Варта адзначыць, што ў бітве за Монтэ-Касіна ўдзельнічалі многія беларусы, якія сталі вядомымі людзьмі: педагог і навуковец з Мядзельшчыны Вінцэнт Жук-Грышкевіч, пісьменнік з Вілейшчыны Пётра Сыч, грамадскі дзеяч з Піншчыны Фёдар Кажаневіч, спявак з Карэліччыны Пётр Конюх, актыўны руплівец беларушчыны Аркадзь Міклашэвіч (брат Ларысы Геніюш), Віктар Астроўскі, Кастусь Шыбіцкі, нашы землякі Якуб Конан з Бярэзінскага, Іосіф Жамойдзін з Валожыншчыны і Яўген Русак з Вілейшчыны. Многія беларусы сталі кавалерамі высокіх ваенных польскіх узнагарод. Сотні беларусаў атрымалі Памятны крыж Монтэ-Касіна, 80 чалавек – Крыж Змагарных, 45 – Сярэбраны Крыж Заслуг з мячамі, 7 – Залаты Крыж Заслуг з мячамі. Шмат хто адзначаны ваеннымі брытанскімі ўзнагародамі: Зоркай Італіі, Зоркай 1939–1945, медалём вайны 1939–1945 і інш.

У выніку пераможных баёў за Монтэ-Касіна была адкрыта дарога на Рым. Бітва за Монтэ-Касіна ў цэлым адрознівалася ад іншых баёў на італьянскім фронце вялікімі ахвярамі, гераізмам яе ўдзельнікаў, асаблівай незвычайнасцю і напружанасцю ўмоў правядзення. Падчас бітвы за Монтэ-Касіна корпус страціў больш 4 тыс. воінаў, з якіх 1078 чалавек, у тым ліку 264 беларусы, загінулі.

Шмат беларусаў ваявала супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Заходняй Еўропе, асабліва ў польскіх вайсковых фарміраваннях. На падліках брытанскага гісторыка Н. Дэвіса, кожны трэці салдат 2-га польскага корпуса быў не палякам, г.зн. беларусам, украінцам і інш.

*(Працяг будзе)*

## Верасень

**Гродзенскі абласны драматычны тэатр (1947) – 60 гадоў з часу стварэння (адкрыты 20.10.1947).**

**3 – Адамовіч Алесь** (Аляксандр Міхайлавіч; 1927, Капыльс. р-н – 1994), пісьменнік, крытык, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч, член-карэспандэнт НАН Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1976), прэміі Міністэрства абароны СССР (1974) – 80 гадоў з дня нараджэння.

**7 – Нарбут Людвік Тэадоравіч** (1832, Воран. р-н – 1863), адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. на Беларусі і ў Літве – 175 гадоў з дня нараджэння.

**13 – Содаль Уладзімір Ільіч** (1937, Жлоб. р-н), літаратуразнавец, краязнавец – 70 гадоў з дня нараджэння.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*



*Генеалагічнае дрэва Гедзімінавічаў (фрагмент гравюры А. Тарасевіча, 1672 г.)*

**ГЕДЗІМІНАВІЧЫ** – дынастыя вялікіх князёў і палітычных дзеячаў ВКЛ, вяльмож Расійскай дзяржавы. Магчымы пачынальнік роду Скалмант (Скаламенд). Назву атрымалі ад імя яго ўнука Гедзіміна. Гербам Гедзімінавічаў, пачынаючы з Віценя (вялікі князь ВКЛ каля 1295–1316 гадоў; пераемнік адпаго са стваральнікаў ВКЛ Войшалка і Трайдзеня, бацька або старэйшы брат Гедзіміна), стала «Пагоня», якая пераходзіла па спадчыне разам з годнасцю вялікага князя. Іншыя Гедзімінавічы, удзельныя князі, мелі асобныя гербы. У XIV ст. большасць з іх (па сцвярджэнні многіх вучоных, што сёння выклікае сумнеў) былі яшчэ язычнікамі, толькі паводле палітычных меркаванняў перайшлі ў праваслаўе альбо ў каталіцызм, засвоілі беларускую культуру.

Гедзімін (у пісьмовых крыніцах мае і шмат іншых імён; каля 1275–1341) – вялікі князь ВКЛ з 1316 г. Умацоўваў яго, у тым ліку і шляхам агрэсіўнай палітыкі да таксама агрэсіўных Пскова і Ноўгарада. Актыўна змагаўся супраць Тэўтонскага ордэна, абапіраючыся на саюз з польскімі князямі. У час яго княжання фактычна завяршыўся працэс аб'яднання асноўнага масіву беларускіх земляў ад Заходняга Буга да Дняпра, што вызначыла іх дамінуючую ролю ў ВКЛ.

Па імені Гедзімінавага сына Альгерда вылучылася лінія Альгердавічаў, унука Ягайлы – Ягелонаў, якая стала кіруючай у Польшчы і ВКЛ у 1447–1572 гг. У Беларусі, Украіне і Расіі сфармаваліся і іншыя вышэйназваныя княжацкія роды – Алелькавічаў, Астрожскіх, Бельскіх, Вішнявецкіх, Галіцыных, Куракіных, Мсціслаўскіх, Сангушкаў, Святаполка-Мірскіх, Трубчэўскіх і Трубяцкіх, Хаванскіх, Чартарыйскіх і інш.

**ГЕДРОЙЦ** Ежы (1906–2000) – палітык, публіцыст, заснавальнік і рэдактар часопіса «Культура» (з 1947 г., Парыж), выданняў серыі «Бібліятэчка культуры» (з 1953 г., Парыж). На працягу 50 гадоў змагаўся за добрасуседскія адносіны Польшчы з усходнімі краінамі: Беларуссю, Літвой, Украінай. Аўтар шматлікіх артыкулаў і кнігі «Аўтабіяграфія ў чатыры рукі».



*Е. Гедройц*

Е. Гедройц нарадзіўся ў Мінску ў сям'і Ігната Гедройца і Францішкі Стацкай. Скончыў юрыдычны і гістарычны факультэты Варшаўскага ўніверсітэта (1924–1931). У час Другой сусветнай вайны салдат брыгады карпацкіх стралкоў, удзельнік бітвы ў Торбуку (Лівія), у складзе 2-га польскага корпуса (1941–1944). Заснавальнік Літаратурнага інстытута ў Рыме (1946).

Рашэннем Мінскага гарвыканкама адна з вуліц горада названа імем Ежы Гедройца.

**ГЕДЭМАН** Ота Магнус (1877–1937) – гісторык і краязнавец. У часы царскай імперыі праследаваўся за многія грахі, у ліку якіх былі і «сепаратызм, нацыяналізм». Настаўнічаў у беларускіх школах, займаўся краязнаўствам. Вывучаў дзеянне на Беларусі магдэбургскага права, развіццё гандлю і розных рамёстваў, сацыяльных структур і маёмасных адносін насельнікаў некаторых беларускіх мясцін. Даследаваў лясныя промыслы і водныя шляхі на Беларусі XVII–XVIII стст., гісторыю Белавежскай пушчы.

**ГЕЙДУКЕВІЧ** Станіслаў Сільвестравіч (1876–1937) – архітэктар. Скончыў Пецярбургскую АМ ў 1910 г. і вярнуўся ў родны Мінск. Асноўныя ягоныя работы тут: жылы (даходны) дом, будынак польскага банка, Дом селяніна (у сааўтарстве); многія з яго ўвасобленых у жыцці праектаў былі прыпынены ў сувязі з неабгрунтаваным арыштам. Быў расстраляны ў час рэпрэсій 1930-х. На думку многіх даследчыкаў, творчасць Гейдукевіча вызначалася імкненнем да ўвасаблення традыцый, характэрных менавіта для беларускага дойлідства.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 334 61 62. Тэл./факс 334-42-03 E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 23.08.2007. Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 1021. Тыраж 1270 асобнікаў.